Bialystok, den 27. September 1942
Nr. 27

NEUER WEG
Weissruthenische Wochenzeitung für den Bezirk Bialystok

PREIS 20 PF.
Цана 20 фнг.

# НОВАЯ ДАРОГА

Беларуская тыднёвая газэта на Беластоцкую Акругу

Verlag: Sturmverlag G. m. b. H. Zweigniederlassung Bialystok, Lindenstr. 64, Tel. 437 — Bankkonto Stadtsparkasse 700. Anzeigenpreise: z. Zt. ist die Preisliste 1 gültig.

Беласток
27-га верасьня 1942.

Адрас Рэдакцыі: Sturmverlag G. m. b. H. Zweigniederlassung Bialystok, Lindenstr. 64, Tel. 437—
Банкконто Гарадзкая Каса Ашчаднасьці 700
Цана абвестак паводле лісты цэнаў 1.

## Вулачныя баі ў Сталінградзе

**Найвышэйшае Камандаваньне Амріі паведамляе наступнае аб баёх у Сталінградзе:**

**У Сталінградзе прадаўжаюцца цяжкія вулачныя баі ў самым горадзе. Бальшавікі надарэмна прабавалі затрымаць зьніштажальны наступ нямецкіх войскаў. Нямецкая пяхота, танкавыя й сапёрныя часьці зламалі заўзяты супраціў ворага і здабылі далейшыя раёны гораду. У развалінах дамоў бальшавікі прабавалі распачліва супраціўляцца нямецкаму наступу. У занятых раёнах гораду праводзіцца ачышчэньне ад расьсеяных рэштак бальшавіцкіх сілаў. Нямецкія баявыя й стрымгаловыя самалёты скуткоўна падтрымлівалі баі наземных войскаў і закідалі бомбамі склады заспасабленьня й блёкі дамоў, якія былі выбудаваны накшталт крэпасьцяў. Нямецкія ганчакі зьбілі ў аднэй атацы 33 варожыя самалёты, шэсьць варожых самалётаў зьнішчана процілятунскай артылерыяй. Баі адбываюцца ўжо ў самым цэнтры гораду.**

## Канец Сталінграду

Трывожнае пытаньне віднеецца цяпер ува ўсіх газэтах плютакратаў і бальшавікоў. Гэта пытаньне: ці падзе Сталінград? Першы раз ад 23 жніўня, калі нямецкія войскі пайшлі ў атаку супроць гэтага ваеннага мэтраполю, нават у найбольшых аптымістаў у Лёндане і Маскве настроі зусім апалі, бо ўжо ніяк ня могуць яны утоіць таго, што нямецкія войскі ўжо знаходзяцца ў самым сэрцы Сталінграду, што ў заўзятых баёх падаюць вуліца за вуліцай, а Цімашэнка цалком бязсільны перад тактычнымі парушэньнямі нямецкіх арміяў. Нямецкае лятунства ўсяўладна пануе над полем бою. Зьбліжаецца час, калі горад Сталіна з замкнёнымі ў ім савецкімі вялікімі арміямі і нязьлічанай колькасьцю ваеннага матарыялу аканчальна будзе ў нямецкіх руках. Нават англійскае інфармацыйнае бюро змушана было прызнаць, што нямецкія войскі паступова акружылі горад пасьля таго, як барацьба асабліва загострылася. Найвялікшая гераічная песьня нямецкае ваеннае гісторыі ўжо зьбліжаецца да свайго канца.

Надарэмна Чэрчыль кідаецца з сваімі разьлічэньнямі на якія-небудзь адцяжваючыя манэўры ў мамэнт, калі мае надыйсьці вестка аб упадку Сталінграду. Яго спроба каля Тобруку была здушана войскамі дзяржаваў восі ў адзін міг. Зьнішчэньне 2 крэйсараў і што найменш 4 зьнішчальнікаў толькі змусіла англійскае інфармацыйнае бюро ламаць голаву, каб як-небудзь адцягнуць паведамленьне аб гэтых стратах. Толькі ў сераду позна вечарам было падана аб страце двух зьнішчальнікаў. Аб іншых стратах, як звычайна, бюро ўпорна маўчыць. Тое-ж самае датычыць і затапленьняў караблёў, аб якіх паведамляла ў сваіх камунікатах Найвышэйшае Камандаваньне Арміі. З усходу насоўваецца бура. Нічога дзіўнага ў тым, што ім нязручна падаваць «благія весткі». Яны нічога іншага ня могуць прыдумаць, як звычайныя пацяшэньні й заяўленьні, што «маўляў, нямецкія паведамленьні перабольшаныя». Інакш думаюць, аднак, матросы. Паводле амэрыканскае газэты «Нью-Йорк Таймс» яны масава ўцякаюць з караблёў і толькі пад прымусам ізноў варочаюцца на сваю службу. Нават 250 англійцаў адмовілася нядаўна плыць на караблі і іх сілай адтранспартавалі з ЗША у Англію, дзе яны прымусова ўлучаны ў армію. Недахоп экіпажаў на караблёх прыймае катастрафальныя разьмеры. Загранічныя матросы ўцякаюць яшчэ больш, а атрымаўшы водпуск, больш не варочаюцца на службу. Гэта вельмі вымоўна гаворыць аб посьпехах нямецкіх падводных лодак. Наколькі дрэнна прадстаўляюцца справы з мараплаўствам у Англіі, відаць з аднаго Лёнданскага камунікату. У ім гаворыцца, што ніхто з матросаў ня хоча ехаць у «сьмяротную дарогу», матросы папросту адмаўляюцца, і таму выправіць караван караблёў у Мурманск нязвычайна трудна. Англійскі ўрад вызначае прэміі для матросаў, а да караванаў дадаецца яшчэ ўзмоцненая ахова.

Нічога пацяшаючага не даюць і весткі з Індыі. Праца англійска-індускага заканадаўчага сабраньня адбываецца ў надзвычай цяжкіх умовах. Тысячы індусаў тоўпяцца перад уваходам у памяшчэньне сабраньня, дэманструючы супроць арышту нацыянальных правадыроў і забіваючы прыхільнікаў Англіі. Ня гледзячы на грамаджэньне войскаў, якое праводзяць англійскія ўлады, вызваленчы рух, здушаны ў адным мейсцы, выбухае з новай сілай у другім. Англійскі віцэ-кароль выдае адозву за адозвай, але гэта памагае, як мёртваму кадзіла: рух бязупынна расьце й магутнее. Над індускімі гарадамі й вёскамі носяцца англійскія бамбардыроўшчыкі й сеюць сьмерць і зьнішчэньне.

Гэтая музыка, якая суправаджае вялікія падзеі ў Сталінградзе, рэжа брытанцам вушы. Цяпер яны бязпомачна шукаюць новай «дошкі ратунку», за якую можна было-б ухапіцца пасьля ўпадку Сталінграду. Народ спытае гэтых плютакратаў, як яны думаюць выраўняць гэты найцяжэйшы ўдар вайны. А Чэрчыль спрабаваў усё, ад Д'еппа да Тобрука. Усюды яго спаткала няўдача. Цяпер ён з трывогай чакае няўхільнага ўпадку Сталінграду, які перажывае свой канец.

# ВАЙНА

**На ўсходнім фронце заканчываюцца цяпер баі за СТАЛІНГРАД. Лёс яго ўжо фактычна вырашаны. Кожную гадзіну можа надыйсьці паведамленьне аб аканчальным здабыцьці гораду. Баі праходзяць ужо ў самым горадзе, пры чым бальшавікі заўзята бароняцца. Ад мамэнту, калі баі прынялі асабліва вострую форму, горад паволі акружаецца нямецкімі войскамі й вялікія савецкія сілы апынуцца ў замкненьні. Спробы ворага зрабіць мясцовую адцяжваючую атаку з поўначы моцнымі пяхотнымі й танкавымі ўгрупаваньнямі былі здушаны з вялікімі стратамі для ворага. Вуліца за вуліцай падаюць у цяжкіх баёх. Кожны блёк дамоў тут выбудаваны, як крэпасьць. Але на помач нямецкім атакуючым войскам прыходзіць лятунства, якое бязупынна бамбардуе ўцалеўшыя дамы й ваенныя аб'екты. Аб скуткоўнасьці нямецкіх налётаў сьведчаць цыфры зьбітых савецкіх самалётаў.**

**Нямецкія войскі прабіваюцца праз груз і разваліны дамоў, разьбітыя кучы танкаў і зьнішчаныя артылерыйскія становішчы ўглыб гораду. Сапёры й пяхота мусяць быць надзвычай уважнымі, бо з дахаў і разваленых дамоў сочыць вораг. Густы дым і пажары робяць змаганьне вельмі цяжкім. Два дні падаўшы дождж забалоціў дарогі заспасабленьня, што ўтрудняе падвоз баявых матарыялаў. Але ўсе труднасьці перамагаюцца. Ня гледзячы на ўсё, ня гледзячы на распачлівы супраціў ворага, нямецкая пяхота пераможна здабывае горад. Як падае камунікат Найвышэйшага Камандаваньня Арміі, нямецкай процілятунскай артылерыяй і лятунствам зьбіты жалезнадарожныя гарматы, якія прадстаўлялі небясьпеку для атакуючых войскаў. Зьнішчана шмат цыстэрнаў бэнзыны й цягнік з 100 вагонамі бэнзыны. Зарава пажараў залівае неба. Сталінград перажывае свой канец. Баі адбываюцца ўжо ў самым цэнтры гораду.**

**На Церакскім фронце, ня гледзячы на цяжкія ўмовы мясцовасьці, здабыты штурмам важныя гарады Цэрэк і Владзіміраўскі. Танкавыя аддзелы і пяхота прадаўжаюць свой наступ на ўсход ад ракі Цераку. Тут праломлены моцныя савецкія пазыцыі. Вораг адкінуты далей. Нямецкае войска перамагае надзвычай вялікія труднасьці, бо бальшавікі замінавалі мясцовасьць. На адрэзку аднае толькі дывізыі выбрана звыш 100 мінаў.**

**У загібе ракі Цераку ў надзвычай труднай для праходу мясцовасьці прадаўжаецца атака на паўдзённы-усход ад Прахладнай. Нямецкія войскі прабіліся наперад праз стромыя ручаі, высокую стэповую траву й зарошшыя лесам горныя ўзвышшы.**

**У апэрацыях паміж Кубаньню й Каспійскім морам нямецкія войскі праламілі моцна падмінаваную сыстэму пазыцыяў. Горад Дэйское здабыты штурмам. У гэтых баёх цалком зьнішчаны адзін савецкі батальён. Спробы ворага адбіць страчаную мясцовасьць былі здушаны, пры гэтым ён панёс цяжкія крывавыя страты.**

**На паўночны захад ад Новарасійска вораг прабаваў ужачы на 21 верасьня высадзіць свае войскі. Хуткабежныя й падводныя лодкі падплылі да ўзьбярэжжа, але былі адбіты нямецкім ваенна-марскім флотам і берагавой абаронай.**

**Нямецкія самалёты бамбардавалі скуткоўна варожыя становішчы каля Гэлэндшык і порт Туаспэ.**

**На сярэднім адрэзку ўсходняга фронту вораг праводзіў далей атакі. Усе яны былі адбіты з цяжкімі стратамі для ворага. Зьнішчана шмат савецкіх танкаў. Моцныя эскадры нямецкіх баявых самалётаў скуткоўна атакавалі ўдзень і ўначы шляхі заспасабленьня й жалезнадарожныя спалучэньні Саветаў у абшары каля Ржэва. У часе ад 15-га да 19-га верасьня ў сэктары Ржэва й Варонежа зьнішчана 114 варожых танкаў.**

**Надзвычай вялікія посьпехі асягнулі нямецкія падводныя лодкі ў барацьбе з гандлёвым флотам ЗША і Англіі. У чатырох Надзвычайных Камунікатах Найвышэйшае Камандаваньне Арміі падало гордыя вынікі затапленьняў. 13-га верасьня затоплена 18 караблёў у 121.000 БРТ, 15 верасьня затоплена 19 караблёў у 122.000 БРТ, 19-га верасьня ў Караібскім моры, перад Афрыкай і ў затоцы Сьв. Лёрэнца затоплена 19 караблёў у 100.000 БРТ. Але найцяжэйшы ўдар нанесены варожаму суднаходзтву 20-га верасьня. Нямецкія падводныя лодкі і самалёты затапілі 38 караблёў на 270.000 БРТ. Цыфры гавораць самі за сябе. На працягу 17, 19 і 21 верасьня на ўсходнім фронце зьбіта 223 самалёты. Згінула толькі 6 нямецкіх самалётаў.**

**Нямецкія самалёты бамбардавалі ў далейшым паўдзённую і паўдзённа-усходнюю Англію. Выкліканы зьнішчэньні й пажары.**

## Налёты на Англію

Нямецкія паветраныя баявыя сілы скуткоўна праводзілі атакі на англійскае ўсходняе пабярэжжа. Англійскае інфармацыйнае бюро падае, што, ня гледзячы на англійскую абарону процілятунскай артылерыі і ганчакоў, у многіх мясцовасьцях скінуты разбураваючыя і запальваючыя бомбы. Як паведамляе Найвышэйшае Камандаваньне Арміі, надзвычай жорсткі налёт праведзены на брытанскі прамысловы горад Бостон. Нямецкія баявыя самалёты прабіліся праз агонь процілятунскай абароны й балёнавую загароду й закідалі бомбамі горад і партовы раён. Узьніклі шырокія пажары. Разбураны таксама вайсковыя кашары на паўдзённы ўсход ад гораду.

Паводле англійскіх паведамленьняў у ліпені і жніўні ад паветраных налётаў было каля 1900 англійцаў забіта. Лік раненых таксама вялікі

# АБРАЗЫ З ТЫДНЯ



Зьлева:

**ЖАЎНЕР НА ВАРЦЕ.**

Жаўнер на варце добре замаскаваўся, каб лепш назіраць варожыя становішчы.

Зправа:

**СПАТКАНЬНЕ Ў МОРЫ.**

Капітаны нямецкіх падводных лодак хутка абменьваюцца ўражаньнямі, і лодкі ізноў разыходзяцца ў моры насустрач ворагу.





Сучасная марская бітва. Абраз марской бітвы ў Каралевым моры. Амэрыканскія караблі надарма прабуюць уцячы ад бомбаў японскіх самалётаў, якія выляцелі з авіяносцаў.



Зьлева:

На горных вяршынах Каўказу.

Зправа:

**У БАРАЦЬБЕ З БАНДАМІ.**

Хаты, у якіх схаваліся бандыты і іх памагатары, пушчаюцца з дымам.





Нямецкі ўсходняпрускі падпалкоўнік Баўэр, [illegible] нядаўна адзначыў Фюрэр Рыцарскім Крыжам, з сваім любімым прыяцелем.



У зарасьлях сланэчнікаў добра схаваная 3,7 цм. процілятунская гармата паралiжуе рухі ворага.